*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб пенсіённым забеспячэнні”

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 года “Аб пенсіённым забеспячэнні” (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 17, арт. 275) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Пункт “а” артыкула 4 дапоўніць абзацам шостым наступнага зместу:

“за асаблівыя заслугі перад рэспублікай”.

2. З артыкула 7 выключыць частку другую.

3. Артыкул 10 дапоўніць словамі “а таксама вырашэнне пытанняў пенсіённага і іншага матэрыяльнага забеспячэння некаторых катэгорый грамадзян за іх асаблівыя заслугі перад рэспублікай”.

4. Частку першую артыкула 12 дапоўніць пунктам “з” наступнага зместу:

“з) работнікі экспедыцый, партый, атрадаў, участкаў і брыгад, непасрэдна занятыя на палявых геолагаразведачных, гідралагічных, лесаўпарадкавальных і вышукальных работах:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 20 гадоў на ўказанай рабоце;

жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 15 гадоў на ўказанай рабоце.

Пры гэтым перыяд работы непасрэдна ў палявых умовах на працягу паўгода або больш за паўгода залічваецца за год работы, менш за паўгода — па фактычнай працягласці, а на сезонных работах — у адпаведнасці з артыкулам 53 гэтага Закона”.

5. Артыкул 20 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“Артыкул 20. Пенсіі бацькам дзяцей-інвалідаў (інвалідаў з дзяцінства)

Маці, якія выхоўвалі дзяцей-інвалідаў (інвалідаў з дзяцінства) не менш 8 гадоў у перыяд да іх паўналецця, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 50 гадоў і пры стажы работы не менш 20 гадоў.

Бацькі, якія выхоўвалі дзяцей-інвалідаў (інвалідаў з дзяцінства) не менш 8 гадоў у перыяд да іх паўналецця, маюць права на пенсію па ўзросту па дасягненні 55 гадоў і пры стажы работы не менш 25 гадоў, калі маці дзіцяці-інваліда (інваліда з дзяцінства) не выкарыстала набытага ёю права на пенсію па ўзросту ў адпаведнасці з часткай першай гэтага артыкула і адмовілася ад гэтага права на карысць бацькі або не выкарыстала права на пенсію па ўзросту ў адпаведнасці з часткай першай гэтага артыкула ў сувязі з яе смерцю”.

6. З артыкула 30 выключыць частку трэцюю.

7. Абзац трэці пункта “а” артыкула 47 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“Пералік пасад работнікаў лётнага складу, парадак вылічэння тэрмінаў выслугі гадоў для назначэння ім пенсій, а таксама парадак назначэння і выплаты пенсій работнікам лётна-выпрабавальнага складу зацвярджаюцца ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь”.

8. Дапоўніць Закон артыкуламі $49^1$ і $49^2$ наступнага зместу:

“Артыкул $49^1$. Умовы для назначэння пенсій работнікам следчага апарату пракуратуры

Права на пенсію за выслугу гадоў маюць работнікі следчага апарату пракуратуры (артыкулы 19, 43 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь”) пры наяўнасці стажу работы ў следчым апараце не менш 20 гадоў.

Пералік пасад, якія адносіліся да следчага апарату пракуратуры да ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь “Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь”, вызначаецца Пракуратурай Рэспублікі Беларусь.

Артыкул $49^2$. Умовы для назначэння пенсій спартсменам

Права на пенсію за выслугу гадоў маюць спартсмены:

мужчыны — па дасягненні 55 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў, з іх не менш 15 гадоў прафесіянальнай спартыўнай дзейнасці;

Жанчыны — па дасягненні 50 гадоў і пры агульным стажы работы не менш 20 гадоў, з іх не менш 10 гадоў прафесіянальнай спартыўнай дзейнасці.

Асобныя катэгорыі спартсменаў, якія знаходзіліся ў штаце нацыянальных зборных каманд Рэспублікі Беларусь не менш 5 гадоў, маюць права на пенсію за выслугу гадоў пры агульным стажы работы не менш 25 гадоў для мужчын і 20 гадоў для жанчын.

Пералік катэгорый спартсменаў, якія маюць права на пенсію ў адпаведнасці з часткай другой гэтага артыкула, зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь”.

9. У артыкуле 46 словы “(артыкулы 47—49)” замяніць словамі “(артыкулы 47—$49^2$)”.

10. Артыкул 50 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“Артыкул 50. Размеры пенсій.

Пенсіі за выслугу гадоў (акрамя пенсій работнікам лётнага і лётна-выпрабавальнага складу і работнікам следчага апарату пракуратуры) назначаюцца ў размеры 55 працэнтаў заработку (артыкулы 56—58), але не ніжэй мінімальнага размеру пенсіі.

За кожны поўны год выслугі звыш патрабуемай пенсія, у тым ліку мінімальная, павялічваецца на адзін працэнт заработку, але не менш чым на адзін працэнт мінімальнага размеру пенсіі. Павелічэнне праводзіцца ў межах 20 працэнтаў заработку (мінімальнага размеру пенсіі).

У выпадках, калі стаж работы, вылічаны ў адпаведнасці з артыкуламі 51—53 гэтага Закона, перавышае тэрмін выслугі, павелічэнне пенсій, прадугледжанае часткай другой гэтага артыкула, праводзіцца за кожны поўны год стажу работы да назначэння пенсіі.

Мінімальны размер пенсіі за выслугу гадоў устанаўліваецца ў размеры 100 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту (артыкул 23).

Парадак вылічэння пенсій работнікам лётнага і лётна-выпрабавальнага складу, а таксама работнікам следчага апарату пракуратуры ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь”.

11. Дапоўніць Закон артыкулам $50^1$ наступнага зместу:

“Артыкул $50^1$. Надбаўка да пенсіі

Да пенсіі за выслугу гадоў устанаўліваецца надбаўка на догляд:

інвалідам I групы — 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, а таксама адзінокім пенсіянерам, што маюць патрэбу па заключэнню МРЭК або УКК у пастаяннай пабочнай дапамозе, — 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на надбаўку на догляд па розных падставах, прадугледжаных у гэтым артыкуле, надбаўка налічваецца па адной з указаных падстаў”.

12. У артыкуле 51:

пункт “г” часткі трэцяй выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“г) часовая непрацаздольнасць, якая пачалася ў перыяд работы, час знаходжання на інваліднасці I і II груп з прычыны працоўнага калецтва або прафесіянальнага захворвання, а таксама час знаходжання на інваліднасці I і II груп, звязанай з выкананнем абавязкаў ваеннай службы”;

дапоўніць частку трэцюю пунктамі “р” і “с” наступнага зместу:

“р) перыяд знаходжання грамадзян у лагерах для інтэрніраваных асоб і праверачна-фільтрацыйных лагерах, калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы;

с) перыяд атрымання дапамогі па беспрацоўю, а таксама перыяд прафесіянальнай падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі беспрацоўных”;

у частцы чацвёртай словы “пунктамі "а" — "н" замяніць словамі “пунктамі "а" — "н", "р", "с"; другі сказ гэтай часткі выкласці ў наступнай рэдакцыі: “Пры гэтым работа або іншая дзейнасць, прадугледжаная пунктамі "а" — "н", "р", "с" гэтага артыкула, пасля назначэння пенсіі па ўзросту, а таксама іншага віду пенсіі пасля дасягнення пенсіянерам узросту, устаноўленага артыкулам 11 гэтага Закона, залічваецца ў стаж, калі пенсіянер не атрымліваў пенсіі за гэты перыяд (за выключэннем пераразліку пенсіі, прадугледжанага артыкулам 66 гэтага Закона)”;

у частцы першай артыкула 5 словы “пункты "а" — "н" замяніць словамі “пункты "а" — "н", "р", "с".

13. Артыкул 57 пасля часткі шостай дапоўніць часткай наступнага зместу:

“Для карэкціроўкі сярэднямесячнага фактычнага заработку пры назначэнні пенсіі і пераразліку пенсіі ў сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы (артыкул 70) вызначаецца індывідуальны каэфіцыент заработку пенсіянера, які атрымліваецца шляхам суадносін сярэднямесячнага фактычнага заработку за ўстаноўлены перыяд (часткі першая—шостая гэтага артыкула) і сярэднямесячнай заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы за той жа перыяд”.

У сувязі з гэтым частку сёмую лічыць адпаведна часткай восьмай.

14. Артыкул 68 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“Артыкул 68. Павышэнне пенсій

Пенсіі, назначаныя ў адпаведнасці з гэтым Законам, павышаюцца:

а) Героям Савецкага Саюза, Героям Сацыялістычнай Працы, асобам, узнагароджаным ордэнамі Славы трох ступеняў, — на 150 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

б) інвалідам вайны I і II груп — на 175 працэнтаў, III групы — на 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

удзельнікам вайны з ліку ваеннаслужачых, якія праходзілі службу ў складзе дзеючай арміі, у партызанскіх атрадах і злучэннях, ваеннаслужачым, прымаўшым удзел у баявых дзеяннях пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, — на 100 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам з ліку вольнанаёмнага складу, якія праходзілі службу або працавалі ў складзе дзеючай арміі, — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, якія працавалі ў перыяд блакады горада Ленінграда на прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях горада, і асобам, узнагароджаным знакам “Жыхару блакаднага Ленінграда”, — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

вязням фашысцкіх канцлагераў (гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання ў перыяд вайны), калі яны не ўчынілі ў гэты перыяд злачынстваў супраць Радзімы, на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

інвалідам з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (або з вынікамі ваенных дзеянняў), — на 40 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

асобам, узнагароджаным ордэнамі і медалямі за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады Вялікай Айчыннай вайны, — на 40 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

в) бацькам, дзецям — інвалідам з дзяцінства і жонкам (не ўступіўшым у новы шлюб) ваеннаслужачых, смерць якіх звязана з выкананнем абавязкаў ваеннай службы, або памёршых інвалідаў вайны — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту;

г) грамадзянам, неабгрунтавана рэпрэсіраваным па палітычных матывах у перыяд рэпрэсій 20—80-х гадоў і ў далейшым рэабілітаваным, — на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту.

Пры наяўнасці права на павышэнне пенсіі па розных падставах, прадугледжаных пунктам “б” гэтага артыкула, налічваецца адно з указаных у ім павышэнняў.

Інвалідам з дзяцінства, інваліднасць якім устаноўлена пажыццёва, пенсія па ўзросту павялічваецца на 50 працэнтаў мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту”.

15. З артыкула 69 выключыць апошні сказ.

16. артыкул 70 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

“Артыкул 70. Пераразлік пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы

У сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы праводзіцца індэксацыя сярэднямесячнага фактычнага заработку пенсіянера і адпаведны пераразлік пенсіі, а таксама індэксацыя пенсій, вылічаных у мінімальным размеры.

Пераразлік пенсій у адпаведнасці з часткай першай гэтага артыкула праводзіцца, калі сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у рэспубліцы ў параўнанні з яе велічынёй, прыменёнай пры папярэдняй індэксацыі, узрасла больш чым на 15 працэнтаў.

Індэксацыя пенсій, вылічаных у мінімальным размеры, праводзіцца незалежна ад надбавак да пенсій і іх павышэнняў, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам.

Парадак пераразліку пенсій і індэксацыя пенсій, вылічаных у мінімальным размеры, у адпаведнасці з гэтым артыкулам вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь”.

17. Артыкул 83 дапоўніць пасля часткі першай часткай наступнага зместу:

“Пенсіі па ўзросту, назначаныя ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь”, у перыяд работы не выплачваюцца. Пасля набыцця права на пенсію па ўзросту на іншых падставах выплата пенсіі праводзіцца ў адпаведнасці з часткай першай гэтага артыкула”.

У сувязі з гэтым часткі другую і трэцюю лічыць адпаведна часткамі трэцяй і чацвёртай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

2 лютага 1994 г.
г.Мінск.
№ 2739-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” і аб унясенні змяненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1992 года “Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні”

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” з 1 красавіка 1994 года, за выключэннем пункта 14 гэтага Закона.

Пункт 14 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” ўвесці ў дзеянне з 1 ліпеня 1994 года. Пры гэтым павышэнне пенсій Героям Савецкага Саюза і асобам, узнагароджаным ордэнамі Славы трох ступеняў, правесці з 1 студзеня 1993 года зыходзячы з мінімальнага размеру пенсіі па ўзросту на 1 ліпеня 1994 года.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні ў дзеючае заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, якія вынікаюць з Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні”;

прыняць неабходныя нарматыўныя акты ў сувязі з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” па пытаннях, аднесеных да кампетэнцыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

прывесці акты ўрада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” і забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі рэспублікі іх нарматыўных актаў, у тым ліку інструкцый, якія супярэчаць гэтаму Закону.

3. Унесці ў пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь “Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні” (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 17, арт. 276) наступныя змяненні:

пункт 3 пасля абзаца другога дапоўніць абзацам наступнага зместу:

“работа па найму за межамі Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1992 года залічваецца ў працоўны стаж у парадку, вызначаным раней дзеючым заканадаўствам”.

У сувязі з гэтым абзацы трэці, чацвёрты і пяты лічыць адпаведна абзацамі чацвёртым, пятым і шостым;

дапоўніць пунктам $4^1$ наступнага зместу;

“$4^1$. Захаваць да падпісання міждзяржаўных пагадненняў аб пенсіённым забеспячэнні паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі дзяржавамі размеры пенсій, парадак іх выплаты, які дзейнічаў да ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні”, грамадзянам, выехаўшым за межы рэспублікі да 1 студзеня 1993 года”.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

2 лютага 1994 г.
г.Мінск.
№ 2740-XII

*Постановление Совета Министров Республики Беларусь*

# О кредитовании кооперативного и индустриального жилищного строительства

Совет Министров Республики Беларусь постановляет:

1. Сберегательному банку осуществить в I квартале 1994 г. кредитование жилищно-строительных кооперативов и индивидуальных застройщиков по договорам, заключенным до 1 января 1994 г., для оплаты задолженности подрядным организациям за работы, выполненные в 1993 году, и по согласованию с облисполкомами и Минским горисполкомом использовать кредитные ресурсы в первую очередь на завершение строительства жилых домов, которые имеют высокую степень строительной готовности и подлежат вводу в эксплуатацию в первом полугодии текущего года.

2. Принять к сведению, что Сберегательный банк направит в 1994 году на кредитование индивидуального и кооперативного жилищного строительства из своих ресурсов 155 млрд.рублей, в том числе в феврале-апреле 1994 г. — 70 млрд.рублей.

Министерству финансов предусмотреть компенсацию Сберегательному банку расходов, связанных с предоставлением льготных кредитов на условиях, предусмотренных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 22 марта 1993 г. номер 169 “Об изменении и дополнении постановления Совета Министров Республики Беларусь от 27 марта 1992 г. номер 165” (СП Республики Беларусь. 1993 г., номер 9, ст.146) и постановлением Совета Министров Республики Беларусь и Национального банка Республики Беларусь от 10 мая 1993 г. номер 303/16 "О дополнительном направлении средств на кредитование индивидуального и кооперативного жилищного строительства" (СП Республики Беларусь, 1993 г., номер 14, ст.251).

3. Министерству финансов перечислить Сберегательному банку в феврале—апреле 1994 г. 80 млрд.рублей в счет возмещения расходов по выдаче льготных кредитов жилищно-строительным кооперативам и индивидуальным застройщикам.

Сберегательному банку зачислять в уставный фонд средства, поступающие в 1994 году на эти цели из республиканского бюджета, и за счет их использования возмещать по договорам, заключенным до 1 января 1994 г. затраты банка по кредитованию на льготных условиях кооперативного и индивидуального жилищного строительства.

4. Просить Национальный банк и Ассоциацию коммерческих банков выделить Сберегательному банку для льготного кредитования жилищно-строительных кооперативов и индивидуальных застройщиков, дома которых начаты строительством в 1993 году и подлежат вводу в эксплуатацию в 1994 году, средства в размере 350 миллиардов рублей, в том числе в феврале—апреле — 170 миллиардов рублей.

Кредиты жилищно-строительным кооперативам и индивидуальным застройщикам предоставляются на условиях, определенных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 22 марта 1993 года N 169 и постановлением Совета Министров Республики Беларусь и Национального банка Республики Беларусь от 10 мая 1993 года N 303/16.

5. Сберегательному банку после уточнения показателей мобилизации ресурсов по итогам работы за I квартал 1994 года до 1 мая текущего года внести в Совет Министров Республики Беларусь предложения о дополнительном выделении средств для кредитования на льготных условиях жилищно-строительных кооперативов и индивидуальных застройщиков и об изменении годовых процентных ставок за пользование кредитами, а Министерству финансов после уточнения показателей бюджета по итогам работы за этот период в указанный срок — предложения о дополнительном выделении бюджетных средств для возмещения Сберегательному банку расходов, связанных с предоставлением льготных кредитов.

6. Установить, что кредитование вновь созданных жилищно-строительных кооперативов и индивидуальных застройщиков, строительство домов которых будет начато в 1994 году, осуществляется в размере до 75 процентов сметной стоимости строительства дома на срок до 20 лет. Кредиты выдаются Сберегательным банком за счет своих ресурсов при условии внесения в банк заемщиком средств в размере не менее 25 процентов сметной стоимости строительства дома. При этом процентная ставка за пользование кредитом устанавливается Сберегательным банком в размере, обеспечивающем компенсацию его затрат на формирование кредитных ресурсов и создание запаса средства для выплаты сумм по процентам вкладчикам.

Малоимущим гражданам (материальное положение которых не позволяет осуществлять строительство жилья на указанных условиях), состоящим на льготной очереди нуждающихся в улучшении жилищных условий, в том числе молодым семьям, проживающим совместно с родителями, кредиты предоставляются по решениям исполкомов городских и районных Советов народных депутатов на льготных условиях, предусмотренных постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 22 марта 1993 года N 169 и постановлением Совета Министров Республики Беларусь и Национального банка Республики Беларусь от 10 мая 1993 года N 303/16.

Расходы по предоставлению этих льготных кредитов компенсируются Сберегательному банку исполкомами местных Советов народных депутатов за счет средств местных бюджетов. Министерству финансов при формировании расчетных показателей местных бюджетов предусматривать ассигнования на указанные цели.

7. Госстрою, Министерству финансов, Министерству жилищно-коммунального хозяйства, Госэкономплану, Государственному комитету по труду и социальной защите населения с участием облисполкомов и Минского горисполкома в месячный срок разработать в соответствии с Национальной жилищной программой проект положения о предоставлении гражданам, нуждающимся в улучшении жилищных условий, субсидий на строительство или приобретение жилья и внести его в Совет Министров Республики Беларусь.

8. Для мобилизации кредитных ресурсов рекомендовать местным Советам народных депутатов передавать на обслуживание в Сберегательный банк учреждения и организации, финансируемые из местных бюджетов, а также внебюджетные фонды.

9. Госстрою, Госэкономплану с участием облисполкомов и Минского горисполкома принять меры по ограничению необоснованного роста стоимости жилищного строительства и при необходимости представить предложения в Совет Министров Республики Беларусь.

**Председатель Совета Министров Республики Беларусь**
**В.КЕБИЧ.**

**Управляющий делами Совета Министров Республики Беларусь**
**Н.КАВКО.**

25 февраля 1994 г.
г.Минск.
№ 102

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні дапаўненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь “Аб размеры адлічэнняў у Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці”

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Унесці ў пункт 1 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1991 года “Аб размеры адлічэнняў у Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці” (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 2, арт.34; N 32, арт.516) наступныя дапаўненні:

абзац першы пасля слоў “і арганізацыям” дапоўніць словам “прадпрымальнікам”, а пасля слоў “іншых прадпрыемствах, установах, арганізацыях” — словамі “і ў прадпрымальнікаў”;

дапоўніць пасля абзаца першага новым абзацам наступнага зместу:

“Устанавіць, што прадпрымальнікі маюць права ўносіць у Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці штомесячныя адлічэнні ў размеры аднаго працэнта іх асабістага даходу”.

абзац другі лічыць абзацам трэцім.

2. Гэту пастанову ўвесці ў дзеянне з дня апублікавання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ**

18 студзеня 1994 г.
г.Мінск
№ 2704-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб сур’ёзных парушэннях заканадаўства праваахоўнымі органамі Рэспублікі Беларусь

Заслухаўшы і абмеркаваўшы інфармацыі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Шаладонава В.І., міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ягорава У.Д., старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Шыркоўскага Э.І., начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войск пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Бачарова Я.М., міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Краўчанкі П.К. аб абставінах затрымання і выдачы некаторых асоб замежным дзяржавам, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Адзначыць, што праваахоўныя органы Рэспублікі Беларусь сістэматычна парушаюць заканадаўства Рэспублікі Беларусь і нормы міжнароднага права аб падставах і парадку затрымання і выдачы іншым дзяржавам асоб, якія падазраюцца або абвінавачваюцца ва ўчыненні злачынстваў за межамі рэспублікі, а Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь пры гэтым не мае інфармацыі аб дзейнасці на тэрыторыі рэспублікі груп замежных спецслужбаў і не прымае мер па яе стрыманню, што стварае пагрозу суверэнітэту і бяспецы Рэспублікі Беларусь.

2. Вызваліць ад займаемых пасад міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ягорава Уладзіміра Дзям’янавіча, старшыню Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Шыркоўскага Эдуарда Іванавіча.

3. Камісіям Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, па заканадаўству і па дзяржаўнаму будаўніцтву ўнесці на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы па паляпшэнню ўзаемадзеяння і каардынацыі дзейнасці праваахоўных органаў.

4. Даручыць Пракуратуры Рэспублікі Беларусь правесці праверку па ўсіх фактах парушэнняў законаў Рэспублікі Беларусь і адпаведных дагавораў пры затрыманні і выдачы асоб, якія падазраюцца або абвінавачваюцца ва ўчыненні злачынстваў за межамі рэспублікі, іншым дзяржавам, вырашыць пытанне аб узбуджэнні крымінальных спраў і прыцягненні да адказнасці вінаватых службовых асоб. Аб выніках праверкі і прынятых мерах далажыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ**

25 студзеня 1994 г.
г. Мінск
N 2716-XII

*Закон Рэспублікі Беларусь*

# Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці”

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь “Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці” ад 12 лістапада 1992 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., N 32, арт. 513) наступныя дапаўненні:

1. Частку першую артыкула 2 дапоўніць абзацам наступнага зместу:

“органам падатковых расследаванняў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь”.

2. Артыкул 5 пасля часткі трэцяй дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

“Органы падатковых расследаванняў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь пры ажыццяўленні аператыўна-вышуковай дзейнасці прымяняюць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, прадугледжаныя гэтым артыкулам, за выключэннем:

назірання;

кантролю паштова-тэлеграфных адпраўленняў;

укаранення супрацоўнікаў у арганізаваныя злачынныя групы і крымінагенныя аб’екты;

цэнзуры карэспандэнцыі асуджаных;

праслухоўвання тэлефонных і іншых перагавораў;

слыхавога кантролю;

зняцця інфармацыі з тэхнічных каналаў сувязі.

Органы Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі па звароту органаў падатковых расследаванняў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы, пералічаныя ў частцы чацвёртай, якія патрабуюць выкарыстання магчымасцей іх спецыяльных падраздзяленняў”.

Частку чацвёртую лічыць адпаведна часткай шостай.

3. Артыкул 6 дапоўніць часткай другой наступнага зместу:

“Органы падатковых расследаванняў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь арганізуюць і ажыццяўляюць аператыўна-вышуковую дзейнасць у адпаведнасці з нарматыўнымі актамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прынятымі ў адпаведнасці з гэтым Законам”.

4. Пункт 5 артыкула 14 дапоўніць сказам наступнага зместу:

“Гэтыя правы не распаўсюджваюцца на органы падатковых расследаванняў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь”.

5. Частку першую артыкула 18 дапоўніць словамі “а таксама Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь”.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ**

18 студзеня 1994 г.
г.Мінск
№ 2710-XII

